неўся толькі подпіс – мой, на старым месцы, а з левага боку – яшчэ чыйсьці. Размашысты, але нечытэльны. Працёршы вочы са здзіўлення, яшчэ раз глянуў – але там і подпісаў не было. Нічога не засталося, акрамя чыстай паперы.

16.12.2014



***

Ён як бы сніў і явіў крыху.
Такое з ім здаўна было:
Здавалася – ляцеў
у іншую эпоху,
адкуль ён родам быў
і дзе сябе знайшоў.

Хоць дзе той першы свет
яго, ў якім шукаць кірунку?
Паўсюль адно агонь, віхуры, мора.
Каб даляцець туды,
не адно спатрэбіцца крыло!

Што ад таго жыцця,
апроч жыцця зямнога,
яму далося ў падарунак?
Ізноў той самы час – цягучы, фараонаў!

Змяніліся над ім даўно усе далёкія сузор'і,
Але душа яго ў сваёй душы
засталася душою.

21.01.2014

***

Па ўсяму дому буйна цвіла цішыня.
Хто на луг пайшоў, а хто – ў поле.
У вакне вецярок фіранку гайдаў
І згукі нейкія нёс, як штось дарагое.

Мамін прыстолік – нібыта куфар дарожны:
Грэбень, касынка, флакон і плечыкі,
І свечка, і крыжык, які пільнуе і лечыць
Усіх нас жывых – надзеіць, трывожыць.

А побач кнігі старыя ды ваза з вадою,
Калода карт – як свет невядомы...
І пахла дзявоча-маміным ляўкоем
У той цішыні, што сама была велічным домам.

23.01.2014

## ДЗЕЦІ І НЯНЯ

Дзеці і вечнасць – іх сівавалосая няня –
Схаваўшыся ў свежых ценях падворка,
Як кураняты, ціліўкалі мілагучнай музёлкай,
Каб адказаць на яе прамудрыя пытанні.

На кожным кроку няня не пераставала пілікаць:
Чаму сухі пясок стаецца хутка пылам?
Чаму не лётаюць без птушак толькі крылы? –
........................................................................
........................................................................
І вечна маўчала.
І адказы прымала ўсе без заліку.

14. 02. 2014

## ПЫЛ

Пыл, пры самым лёгкім руху рукі,
На падваконніку падымаўся невысока
І, зрабіўшы неспакойныя кругі,
Зноў ціхамірна асядаў ўнізе вокан.

Куды яму спяшацца – ён жа дома!
Ляжыць і часам варухнецца хмельнай хмарай,
Сухой, малочна-цьмянаю і невагомай,
Бы старац, мяккай сівізною валадарыць.

З якога шоўку ўвесь сатканы мелас
Распаду ў прастату, за якою – хімія магілы,
Дзе няма складанасці цудоўнае душы і цела
І помыслаў высокіх, а толькі пыл пакрыты пылам?

Але рука ізноў пайшла ўверх, як батута дырыжора,
І пыльны хор узвіўся піянісіма-мажорна...
О, не! Пакуль жыву я, чую, бачу й мару,
Не прах і пыл, а я тут сею-гаспадару.

24-26.02.2014

## КОРЧ

Ідзе па лузе корч,
Стагоддзямі ідзе.
І хоць сляпы і моўч,
Вялікі ён відзень.

Па полі корч паўзе
Яшчэ адно стагоддзе.
І ноч адзета ў дзень
За ім ліхтарняй ходзіць.

І корч у лес залез,
Патраціўшы карэнне.
І тут жа з’еў яго жалез
Як непатрэбнае найменне.

7.03.2014

## ПІСЬМО

Ляжыць пісьмо ад дарагой –
Не словы, а фіялкі,
І не туга, а голас палкі,
Нябёсны звон над галавой.
..............................................
Ні дарагой няма, ні дарагога...
А пісьмо ляжыць прад Богам,
Доказам таго, што варта жыць было,
Хоць і жыць давалася нямнога.

13.03.2014

***

О, як чароўна на Зямлі
усходзіць велічнае сонца!
І лёгка на душы, калі
душы адкрыецца бясконцасць,
калі тваёй душы
на сонцы сыплюцца іскрынкі,
калі так хораша ў цішы
і хочацца яе кранаць, як скрыпку.

І светлы дух у вышыні
адзіны сцеле шлях абоім –
у тым свеце на Зямлі,
дзе віяланчэль жыве з габоем.

21. 11. 2010

## ВЯСНА

Рухомасць свежа-зялёная
Маніць бязмэтным хістаннем,
Радасць глядзіць бязмоўная
Сваімі адкрытымі далямі.

Прадаўнія сцежкі лёсу,
Як ноты з чужой партытуры
Ці як нататкі натуры
Нехта кранае узнёсла.

Гадзіны кветкамі ў полі
Вітаюць сумна-прыгожа
Усіх, хто ідзе па дарозе
І тых, каго не ўбачаць ніколі.

17.03.2014

***

Як не мае
Прамільгнулі гады.
Спазнілася шчасце,
Заснула дзесь радасць.

Няпэўнасць прыйшла,
Нахлынула горыч,
А побач гуляюць
З нядоляю доля.

І хораша стала
На іх быць узбоччы.
Яны як не бачаць,
Душы не марочаць.

Гады маладыя
Прайшлі дзесь дарогай.
Жыву бы ў палоне
Мінору зямнога.

3.04.2014

## БАЧЫЦЬ СВЕТ

Свет наш – родная зямля!
Поле, лес, рака, дарога,
Па якой вядзе нябачная рука
І стаяць на варце абярогі.

Бачыць свет, жывы і каляровы,
Як мы з мамай сцежкаю ідзём –
Нам адсюль ваколіц дах відзён,
Краявіды нашай, чалавечай долі.

Разлівае дзень маўклівае святло,
А нябёсы – чысціню трывогі...
Смерці анідзе ніякай не было,
А была ў жыццё шырокая дарога –
Пад адкрытым небам
ў свеце Пталамея.

25.03.2014

## НАС МАЛА

Нас мала. Ды  гэта не значыць,
Што мы анічога не варты.
Нас крыўдзяць. І гэта мы бачым.
Ды ў гэтым змаганні, не йначай,
Мацнее наш дух непераможна-упарты.

Мы не згубіліся ў дзеях.
За намі сцягі слаўных ваяў.
Над намі  іх неба гісторыі.
Той шлях і цяпер нас вядзе
З веку ў век. І з намі надзея.

Бойцеся нас, бо нас мала!
І мы сваё маем джала.
Мацнейшае за кожную зброю
Слова нашае. Слова!
Яно, як тая Пагоня,
Імчыцца ўсё ў бой. І нас бароніць.

1.04.2014

***

Хмяліць і цвярозіць
Сонная слодыч,
Таго, што расце
І цвіце без мовы.

Ах, як захапіла
Стыхійная хваля!
І, як ашчэпак які,
Нясе ў свае далі.

Ад берагоў айчыны,
Ад сваіх людзеяў
Тугі кіламетры,
Чаканне нас дзеліць.

Гляджу на сябе я
Бы на здрайцу, чужога,
Што ў дзіравай лодцы
Плыве па нейкім моры.

Ці ўчуе мой голас
Той мараплавец,
Ці зможа на бераг
Сябе пераправіць?

4.04.2014

# НЯСКОНЧАНАЕ МАЎЧАННЕ

Размова пачалася з доўгага маўчання. Перад заняткамі са студэнтамі быў вольны час і я забег у бакавы пакойчык, гэтакі архітэктурны апендыцыт, кладоўку, якую займаў Фелікс, наш тэхнар на філалагічным факультэце. Ён і Мікола сядзелі ўжо за партыяй шахмат. Я толькі кіўнуў на прывітанне галавою. Яны не азваліся – моў, ясна, бачым, пачакай.

У пакойчыку стаяла канцылярска-папяровая задуха. Запяршыла ў горле, пэўна ж ад кілаграмаў пылу, асеўшага тоўстым каўняром на старых і нікому ўжо непатрэбных часопісах, што гадамі збіраліся і ляжалі гурбамі на стэлажах. У куце стаяла з дзесятак вялікіх, згорнутых у рулоны, выкарыстоўваемых у дыдактычным працэсе, мапаў. На табурэце спакойна чакалі працягу калупання ў іх бэбахі старой радыёлы. А ў яе корпусе, што кінулі пад табурэтку, ляжала добрая жменя шрубак, шчыпчыкі, адкруткі рознай велічыні ды лампачкі і нейкія яшчэ ці то запасныя часткі, ці то вынятыя для рамонту з таго разладжанага тэхнічнага месіва. Усё работа яго, Фелікса.

Я падышоў да вакна і крыху яго прыадчыніў. Дыхнула адразу свежасцю, здавалася, той, запамятанай з найранніх дзён, калі мама ўвесну адчыняла раніцай фортачку, каб я, зусім малалет, апошні ў людная сям'і, яшчэ крыху паспаў. Свет за вакном, як і тады, і цяпер быў малады. І я стаяў

малады, амаль аднагодак вайны. І будынак, у якім мы працавалі, быў не стары, яго паставілі таксама ж зараз пасля вайны. Магчыма, на руінах іншых будынкаў. З вакна другога паверха выразна бачыліся ацалелыя тут і там фундаметы дамоў – адзін, побач другі, далей яшчэ некалькі. Вырысоўвалася геаметрыя вуліцы, якая існавала, жыла, бурліла сваім рытмам, а якой ужо не было. Дзе-нідзе зноў прараслі са старых пнёў кусты бэзу, як радасны гімн жыццю, як сведкі таго, што там, дзе расце бэз, былі чалавечыя сялібы, жылі сем’і, былі дзеці і напэўна дзяўчаты-падлеткі, якія бачаць свет як нерукатворнае цуда і самі імкнуцца да таго высокага, узнёслага прыгаства, упрыгожваючы прастору дома і па-за ім кветкамі і пільнуючы, каб святло красы навокал іх ніколі не гасла. Цяпер тут, як вокам кінуць, віднеліся пакамечаныя цэгла і камяні, звалы, долы, равы, можа траншэі, насыпы. І паўсюль ваенныя раны гаіла вечна зялёная, цярплівая прырода, накрываючы іх каберцам з імхоў, нізкіх траў і дзенедзе аздабляючы карункамі высокай бадыліны.

Прырода была маім другім домам. Я вырас у яе атачэнні, калыханы ёю. І мая дзіцячая любоў да родных мясцін не слабела цягам часу. Варшава, дзе я правёў студэнцкія гады, не перахапіла гэтай любові, хоць яна, чароўная, фанабэрыстая і ананімная, клікала, спакушала, і былі рэальныя магчымасці ўладкавацца на працу ў сталіцы. Аднак мяне цягнулі родныя краявіды, свае людзі з іх адкрытай душою, паляны нашай вольніцы – хаджэнне ледзь золак за грыбамі, вандроўкі ў пошуках арэхаў або проста па чужых агародах, а летам і да позняй восені, мы, дзецюкі, цэлымі днямі прападалі над рэчкай, з якой

не вылазілі, лавілі рэшатам і рыбу, і ракаў. Вогнішча, печаная бульба, песні пры начных выпасах коней і непаўторны смак, спечанага мамай і прыхаванага за пазухай, вясковага хлеба – гэтыя карціны былі вельмі жывымі ўва мне і ў студэнцтве.

Маіх калегаў у пакойчыку як бы і не было – не адзываліся ні да мяне, ні абменьваліся рэплікамі паміж сабою. Відаць, барацьба ішла цалкам сур'ёзная і стратэгічныя планы перамогі вырашалі па-генеральску, кожны сам-насам, у нерухомым маўчанні. Партыя выразна заягвалася па часе – сустрэліся на полі бойкі роўныя сілы. Увогуле, па класу майстэрства, яны гулялі выдатна. Мне з адным ці другім выйграць здаралася рэдка. Аднак мой азарт, якім я здаўна хварэў, ці не ад першай партыі з бацькам, падштурхоўваў зноў і зноў садзіцца за стол да гэтага дзівоснага квадраціка дошкі.

Праз расчыненае вакно з набрынялай цішыні вуха маё ўлаўлівала ледзь чутную гукавую хвалю. Гэта яна, прырода, падавала свой пявучы голас. Я любіў да самазабыцця яе музыку – і лірычную, і драматычную мілагучнасць. І колькі разоў заслухоўваўся геніяльным харавым кантатам лесу, шчырых палёў, расфарбаваных лугоў ды млеў і нямеў перад гамлетычнымі рэчытатывамі на паўнеба вялікіх летніх навальніц з громам і маланкамі, асабліва велічна-прыгожымі ў выкананні, калі дырыжыраваў імі вопытны вецер-вятрыска.

Музыка венскіх класікаў, здаўна думаў я, тая самая па духу, што і прыродная. Тут і там выяўляецца стыхія сімфоніі. Адна з іх гучыць бесперапынна, а другая – зрэдзь. Каб пачуць яе, трэба рабіць намаганні. А слухаць пажадана не ў кан-

цэртных залах, дзе ёй мала месца і дзе яна, адасобленая, замкнёная, загнаная ў вялікую скрыню філармоніі, адчужаная ад натуральнага ёй жывога ўлоння, набывае рысы пачуццёва-інтэлектуальнай істэрыі.

Музыка за вакном, піянісіма, то слабела, то зноў узмацнялася. Да Фелікса яе тоны, відаць, не даходзілі. Калі мы бывала часам гулялі і па радыё пачыналі перадаваць музычныя кампазіцыі, ён тут жа выключаў прыёмнік.

Пару гадоў таму назад аднойчы на калідоры, калі я спяшаўся ў студэнцкую аўдыторыю, перапыніў мяне каржакаваты, але падцягнуты па-вайсковаму, мілавідны, значна старэйшы за мяне ягамосць. Перапытаў, ці я той самы, з кім ён хацеў бы пазнаёміцца персанальна. Я не запярэчыў. Ён назваў сваё імя, сказаў, што тут, дзе і я, працуе і яшчэ запытаў, каб, відаць, цалкам ўпэўніцца, з кім гаворыць, ці займаюся я, апроч навуковай, літаратурнай творчасцю. Я і гэтаму не запярэчыў.

– Прашу прабачэння, што затрымаў. Я ведаю вас здаўна. Вось якая справа, – пачаў ён канцылярскаю моваю. – Я – афіцэр, служыў у контрразведцы. Пасля выхаду на пенсію мяне накіравалі на працу ў камітэт цэнзуры. Аднойчы мне на стол палажылі машынапіс прапанаванага да друку зборніка апавяданняў. Напэўна вы помніце...

– Было такое, – сказаў я ў падтрымку яго маналогу. – Ён быў, як мне зараз бачыцца, не дапрацаваны. У плане мастацкім, – прабаваў я з далёкай перспектывы апраўдаць тую сваю творчую задуму.

– Я быў там не для літаратурных ацэнак, – пасля кароткай затрымкі, як бы здзіўлены маёй неда-

сведчанасцю, нечакана патлумачыў жывы мой цэнзар. – Была агульная дырэктыва не пускаць, прытрымліваць разгул у краіне нацменаў.

– “Матэрыял не прыдатны для працы аматарскіх гурткоў”, – працытаваў я прызабытую цэнзарскую рэкамендацыю. І не вядома чаму спытаў: – Гэтак вы думалі?

Фелікс злёгку ўсміхнуўся крайком губ і змяніў тэму размовы:

– Ведаю, што вы зацяты шахматыст, – сказаў з хітрынкай на вуснах. – Часта прыходзілася бачыць вас за шахматамі ў клубе журналістаў. Усё не рашаўся падысці пазнаёміцца... Можа сёння сыграем партыю?

Ад нечаканага працягу даўняй гісторыі я разгубіўся. Засланяючыся бліжэйшымі занядкамі са студэнтамі, я падзякаваў за запрашэнне, але іграць адмовіўся. Мне патрэбна была паўза, каб перадумаць пачутае. “Вось з якім шахматыстам сустрэцца прыйшлося мне на парозе майго дэбюту, – падумалася тады. – І адразу пройгрыш”.

На маё здзіўленне, пасля таго калідорнага самапрызнання Фелікса, я не азлобіўся на яго. Хацелася больш паслухаць гэтага сімпатычнага гадзюка. Цэнзарам ён ужо не быў. “Раптам, – думалася мне, – такая асоба падзеліцца сваімі назіраннямі, можа фактамі з таго часу”. У мяне забурлілі нейкія аналітычныя памкненні, ахвота паназіраць за ім. “Дзеля чаго ён распавёў пра тое, аб чым я і забыўся па-праўдзе? Азарт шахматыста ці нацыянальная гардыня? Ці іншае нешта? – думалася. – Столькі ж гадоў мінула ад таго”. І, што ні гавары, мы былі ўжо ў вышэйшым класе жыццёвай школы. А Фелікс,

аказваецца, цягнуў за сабою шлейф той маёй нявыдадзенай кніжачкі, хоць яе зямное жыццё закончылася ў ягоным кабінеце.

Пасля той першай сустрэчы мы бачыліся з ім досыць часта. Аднак Фелікс больш не сказаў пра мінулае ні слова. І я маўчаў, усё чакаючы, усё будучы напагатове. І з кожным днём бачыў, што зноў праігрываю. Былы цэнзар быў, як бачылася, здольным псіхолагам. Зразумеў я гэта крыху пазней, калі ён, жартуючы і пасміхаючыся з маёй, як мне здавалася, нейкай жаночай ува мне мяккай шчырасці, непрыхавана абвіваў мяне, дурненькага, вакол свайго мізінца. Я бачыў тое, але спецыяльна і не супраціўляўся. "Гульня дык гульня! – думаў.

Першую шахматную партыю, добра помню, Фелікс выразна даў мне выйграць. Бакавым зрокам я бачыў, як ён уважліва назіраў за маімі жэстамі рук, цела, мімікай твару. На дошку амаль не глядзеў, гуляючы па яму вядомай схеме. У наступнай даў мат у дванаццаць ходаў. Пазнейшыя спарадычныя радасці выйгрышаў з ім нейкі час засланяліся няёмкай для мяне думкай-плёнкаю аб чарговай паддаўцы.

Вось ён, хітрушчы, закрыты, але, пэўна, тым і цікавы, сядзіць упэўнены ў самім сабе ўсяго тры крокі ад мяне, ад музыкі прыроды, і жорстка распраўляецца з Міколам, дабівае яго. Той сядзеў да мяне спіною і па ёй я бачыў, як ён сутуліўся і пры стале станавілася яго ўсё меней і меней.

З Мікалаем, чыё сэрца ў верхняй сваёй частцы працавала на беларускай крыві, а ў ніжэйшай на татарскай, мы пазнаёміліся Бог ведае калі. Ён таксама працаваў на тым факультэце, дзе і я, быў дыдактыкам, вучыў студэнтаў рускай мове. Раней

падпрацоўваў у інжынернай школе, дзе, відаць, мы і зышліся – не помню, калі і як. Можа, звёў нас валейбол, а, можа, несмяротныя шахматы. Мы зжыліся так, што дружылі сем'ямі: ён часта прыходзіў да нас дадому і я хадзіў да іх – на каву-гарбату і, а як жа, шахматы. Пару добрых гадзін пры іх, сумеснае любаванне прыгожымі шахматнымі знаходкамі – гэта было тады ці не найлепшым для душы нашым святам. А ігра з Феліксам, утрох, у ягонай мёртвай зоне хутка набыла рысы нейкага разбою, будзённага рэваншу. А дома – іншая песня! Мікола спярша сюд-туд прапанаваў чарачку то вінца, то каньячку. Хоць ад нейкага часу пачала тут жа з'яўляцца ягоная Марыначка і ветліва прасіла застацца пры тым, што ёсць на стале. "Коленька, – казала, – сам ведаеш, чаго табе нельга!" – і знікала. А Мікола, нібыта забыўшыся, калі я зноў наведваў яго, хацеў усё ж такі, відавочна, захаваць нашы славянскія правілы гасціннасці. Але жонка, як добрая фея, паказвалася ў дзвярах пакойчыка, дзе мы звычайна абсталёўваліся, і сцішаным голасам, як у царкве, напамінала, чаго нельга і мяне прасіла, каб і я быў добры... "Магчыма, па рэлігійных меркаваннях", – думалася напачатку.

Нейкім часам пазней, развітваючыся пасля чарговай пасядзелкі ў яго, Мікола ні з таго ні з сяго запытаў на парозе дзвярэй, ці хачу я пабачыць старога, сямідзесяцігадовага чалавека, якому і трыццаці гадоў не дасі. "Часта яго бачу... жыве ў суседнім будынку". Я на хвіліну здубянеў. "У горадзе шмат такіх старых", – мільгнула ў галаве. Але адмовіцца не рашыўся і мы дамовіліся заўтра на палову трэцяй дня.

Чалавек, якога мы чакалі, быў сярэдняга росту, спартыўнага целаскладу, светлавалосы, ішоў лёгка і досыць хутка, не шоргаючы па сцежцы нагамі. У фланелявай кашулі, звычайных паношаных портках і тэнісным абутку.

– Не верыцца, што яму за семдзесят, – паўтарыў Мікола.

І калі той знік за паваротам вуліцы, ён, унурыўшыся ў ходнік, на якім мы чапелі колькі хвілін як дзве асірацелыя вароны, прыглушаным, вынятым з нейкай сваёй унутранай глыбіні голасам, якога я раней не чуў ад яго, вымавіў:

– Я не дажыву, мусіць, да яго гадоў.

Доўга я нічагуткі не разумеў з таго яго душэўнага заняпаду, пакуль нечакана не пазваніла Марына: “Учора Колю прааперыравалі... Ці не хачаш яго наведаць...”

Да хворага пусцілі на чацвёрты дзень. Ён ляжаў ужо ў агульнай палаце на белай пасцелі, увесь закрыты. Толькі галава была тая самая, стрыжаная ёжыкам. Згледзеўшы мяне, яна варухнулася на падушцы ёжыкам. “Вось што!.. – адразу падумалася тады ж у бальніцы. – Значыць, дружок, здаўна іграе з табою смярцюха. І ці не Фелікс – ціхі пасланец гэтай вялікасці...”

Дома Мікола канчаткова прыняў выклік смерці разыграць з ім у шахматы яшчэ адну партыю – без гадзінніка. Аднымі чорнымі пешкамі і каралём – гуляе яна. Значыць, першы ход за ім, белымі.

Гэту апошнюю партыю ён іграў каля чатырох гадоў. І здаўся, не дажыўшы шасцідзесяці. А быў шанец звесці ў нічыю, каб не адзін памылковы ход...

Але гэта з ім здарыцца значна пазней таго дня,

калі мы утрох зышліся ў Феліксавым катуху, у якім доўга памірала абезгалосеная радыёла.

Сённяшняя іх партыя нарэшце закончылася. Устаючы ад стала, Мікола невыразна нешта мармытнуў, пацісну руку свайму крыўдзіцелю, затым як бы збянтэжана мне і, нічога больш не гаворачы, выйшаў. А Фелікс, знешне спакойны, паволі расставіў на дошцы фігуры. Моўчкі схаваў у руках дзве пешкі і, працягнуўшы сціснутыя кулакі над сталом, кіўнуў галавою, каб я пацягнуў жэрабя. Мне выпалі чорныя, абаронныя. Я сеў на месца, дзе толькі што сядзеў прайграны. Фелікс злёгку губамі ўсміхнуўся як бы свету за прыадчыненым вакном і зрабіў першы ход цэнтральнай пешкаю. І ў тую хвіліну на стале азваўся ягоны службовы тэлефон. Ён тут жа ўстаў і выйшаў.

Праз нейкіх дзесяць хвілін, не зрабіўшы свайго руху, я таксама ўстаў і выйшаў. На двары выразна звінела прэлюдыя да летняга пералётнага дажджу з сонцам і радугай. Музыка дажджу насоўвалася на горад з-за лесу, які адзываўся яшчэ не поўным вакалам, быццам паўтараючы адны басавыя ноты. Унутрана я быў суцішаны і па-хлапечы рады, што сёння не азмрочыў сабе душы гульнёй з Феліксам, бо трэба ж было б неяк адпомсціць за Міколу. Наперадзе шчаслівела пара канікул, а за імі і перамена месца маёй працы.

Дарогі нашы з Феліксам разышліся. Мая сцежка на ўсё лета зафарбавалася неназванай тужлівасцю і гаркатой – ні то болем за марна страчаным часам, ні то сполахамі раней нязведанай вольнасці, ні то новай ціхай радасцю, што тое маўчанне між намі так і засталося няскончаным маўчаннем.



***

Бывае зрэдзь такі ажурны дзень –
Калі падлетніцца ляніва вецер
І здрэмле неба на вадзе,
І поўніцца светласцю зялёнай
Душа, што йдзе па родным свеце
І чуе, як гучыць ў паўтонах
Свет жывы, ёй даўным-даўно знаёмы.

12.04.2014

## ПАДАРОЖЖА

На небе яркі Юпітэр. Свеціць утомна.
Мы з Галяй зноў у дарозе
Між Брэстам Літоўскім і домам.
Абое сядзім і глядзім у трывозе.

Здаецца, нехта адтуль нас прыкмеціў,
І, злоўлены ім, мы адчайна сядзім
Пад зоркім наглядам на гэтым свеце,
Колькі дзён з ім адзін на адзін.
Цягнік хоць імчыцца сваёю дарогай,
Здаецца, вечнасць стаім, а не едзем...
О, гэта дарога, Юпітэр, трывога!
І харашынь, ад якой аж душа халадзее.

13.04.2014

# СПЯЧАЯ

Галя спіць. І рукі спяць –
Геніяльныя умельцы!
Рэчы ў хаце цішыняць,
Толькі б’ецца сэрца.

Галя ў сне. Ці ў сне душа? –
Велічнае нешта,
Чым так людзі даражаць
Ад сівых прадвечняў.

Спіць... Ды ў сне прарочым
Зноў ідзе па строме
Як без рук і моўча
Ад дому да дому.
…………………………….
Гэты сямейны малюнак
Дорыш нашай самоце.
А добры анёл пільнуе,
Каб ты была птушкай ў палёце.

5.05.2014

***

Расцвілі каштаны тысячамі свечак,
Бэз расцвіў ліловым скрыкам,
Быццам кнігу тоўстую раскрыў
                    перада мною нехта
І пальцам стаў ў мае старонкі тыкаць.

“Ці не тваім жыццём пояцца гэтыя каштаны?
Ці не табою жывіцца ліловы бэз?
Бо чаму ж твае бачыны ўсё часцей і неназваныя,
І шмат якія з іх
          ужо адзін суцэльна нечытэльны тэкст?!”

## КАМЕНЬЧЫКІ

Драпідзіха – маці Платона, унучка Салона –
пасланая сюды аднекуль найвялікім конам,
ведала ж усё пра звычкі сына,
таму й сядзела, у чаканні, чынна
паміж паўднёвае спякоты ў ценю прахалоды,
і адной рукою ўладна вецер варушыла,
які, прыйшоўшы з мора, мяккі і салёны,
ляжаў цяпер ля ног яе, зусім лагодны,
а праваю – усё каменьчыкі лічыла,
якіх было за трыццаць болей.
“О, каб магла я бараніць Сакрата”, –
падумала. І зноў, як толькі ёй ставала часу,
трыгон свой зводьна пачынала кратаць...

9. 11. 2010

## СВОЙСКІ МАЛЮНАК

Сабака ланцужны, казёл барадаты,
Рыцарскі певень і тры авечкі
Малююць пейзаж з бярозай у колерах мяты
І сена падножнага, якое ім слалі на свята,
А з боку бярозы ўмалююць палоску грэчкі.

Па-праўдзе толькі авечкі малююць зацята –
Як грэчку топча казёл барадаты,
Як брэша на пеўня сабака ланцужны
І як авечкі кормяцца дружна
На паплаўку, дзе сена смакоцце і мяты.

Малюнак гатовы, устаўлены ў раму.
Кожны ж бачыць – стаіць ён пры браме!
Ды ўсе, хто ні гляне, смяюцца да слёзаў:
Няма ў краявідзе сабакі, казла, ні бярозы,
Ні пеўня, ні мяты, ні сена няма ў гэтай драме,
Ні нават хмары. А ёсць – зацёкі ды плямы.

13.05.2014

## НОВЫ СВЕТ

Што я вам, мае дзеці?!
Вы – несмяротныя ж, калі
вас за руку маці вядзе
па жыццёваму мору па свеце
у ахове бяскрайняй любві.

Хто я вам, мае чужыя?!
Вы – новай праўды спадары,
а не якія хцівыя госці!
Вас найбліжэй, відаць, пасадзілі
пачатку боскае прыгажосці.

І кім табе я, свеце новы?!
Я – спаўна смяротная істота,
што дзень-жыццё аддаў размове...

Мною мысліш, бачу, ўпотай
аб сабе ў вянку лаўровым –
за правіны ўсе мае і выпадковасць!

8–11.07.2014

## ФАЎН

Летнім днём хлапчуком бягу на раку –
Радасць бяжыць, аж дух займае!
Светлае нешта наўкол цягне мяне за руку
Туды, дзе грэецца дзень на левым баку,
Дзе сіняя ціш срэбра ў ваду налівае,
Дзе нешта жывое, нязнанае плешча ў вадзе,
Коціць змяіныя хвалькі на бераг пясчаны,
Дзе ў яснасці цёплай гудзе авадзень
І з музыкі гэтай павук на суку сетку прадзе,
Каб цені жывыя лавіць у сачок даматканы...

Час лёгма Фаўнам даўно там ляжыць.
Арахны дзе пражы пачатак, а дзе працяг?!

Я памёр бы ў свеце такім, каб жыў!
А не жыў – бо быў толькі сведкам жыцця.

11.07.2014

# СОН

Дзіўны мне прысніўся сон –
Ён біў у сэрца вастрыём кінжала,
А ты стаяла нада мной
І Евангелле ў руках перабірала.

І я прачнуўся... у далёкае жыццё.
Да чаго ён – што было? Ці будзе?
– Палагодней з імі будзь, Арцём!
Дзеці шчэ ж яны, але й – людзі...

І хляснула заполкай па спіне:
– Чаго зрываешся, як апантаны!..
– Не трэба, Волька, ён характарам па мне!
А гэта для мужчыны не загана.

1.08.2014

# БАЙРАН У ГРЭЦЫІ

Які ён малады, які ў ім буйны гнеў!
І як жыццём сваім не даражыць!
Як з вышыні з пагардаю глядзіць
На цэлы свет людскі, жанчын. І на мяне!

Няхай сабе ён піша Дон Жуана,
Няхай і дзень і ноч што хоч ён піша!
На што мяне, ўстрывожаную, кліча
Цямнейшая за змрок яго бунтарная душа!?

Ён мне ж ніхто, як кожны! –
Прасцяк ці самы найвялікі пан,
Як, зрэшты, ўсё жывое Альбіёна!..

Я чую пахавальны звон –
Як пад яго нячутныя паўторы
Ужо імкнецца ён у Місалунгі,
Свой цёмны плашч накінуўшы на плечы.

У цёплай гавані жывое вечна мора,
Адзетае ў маркотна-сіні грукат,
Апошнім будзе анямелым сведкам
Адной-адзінай нашае сустрэчы.

Спяшы, гардзец, ляці пад шаблю турка...

7. 03. 2009

# ЦЕНІ

Кант чытае Платона.
“Няўжо аб чым піша – магчыма...”

На бераг сухі набягае хваля.
Дзверы скрыпяць. А вобраз Фэдона
То нікне, то зноў мільгае
Сярод абзацаў, перад вачыма.

Глядзіць, як пурпурнае сонца нагбом
Ягоным частуецца белым віном.
Святло, ап’янелае, льецца на дно.
Ён  п’е цішыню ў самотні знямелай.

“Ці можна выліць святло з віна?
Дзе рэчы ў сабе, а дзе толькі з’явы?”

А на сцяне варушацца ценяў цені –
Ці то ягоных ідэй, ці блізкага мора,
Па якім ціха ішлі два вадаплавы,
Цягнучы цені свае з глыбіняў на хвалі.

11.08.2014

## АЎРАМ І СЫН

Маладосць, калісь бязмежны акіян,
Жыве яшчэ ўва мне – бы васьміног.
О, каб тады я правіць ёю мог!

Цяпер яна ў чужых руках,
Ў чужых абдымках маладое цела.
І дзень і ноч на плаху падае яно.
Над ім страхлівы, саламяны дах.

І мы адзін другому супрацьлежны –
Аўрам і сын, якому бацька горла рэжа.

30.08.2014

# НЕНАПІСАНАЕ

Выйшаўшы з магазіна канцылярскіх тавараў, я на хвіліну затрымаўся, каб прыкінуць у памяці, далёка не адышоўшы ад месца, ці ўсё купіў, што трэба было мне мець дома пад рукою. Я даўно збіраўся напісаць кніжачку пра маіх колішніх сябрукоў, якія сталі хто інжынерам-будаўнікам, хто медыкам, аптэкарам, гарадскім чыноўнікам, а хто нейкім бізнесоўцам ці фермерам. Іхнія лёсы празрыстаю хваляй сяды-тады то наплывалі на мяне, то зноў адплывалі за гарызонт маёй памяці. Дык вось тое пісанне ўсё адкладвалася на пазней, бо спачатку не ведаў ад чаго пачаць – ад якога сказа, ад якой падзеі. У галаве я насіў пару добрых дзесяткаў варыянтаў пачатку. І ўсе яны аднолькава падабаліся мне. Папраўдзе ў памяці ўжо была складзена ўся тая кніжачка – сядзь і запішы сцэна за сцэнай, факт за фактам у іх стройнай падзейнасці. Але калі сядаў, каб нарэшце запісаць – зноў адкладваў, як бы шкадуючы расстацца з нечым вельмі мне дарагім, блізкім, кроўна перажытым, з тым заўсёдны зменлівым, калыхлівым маім унутраным творам, які жыў ува мне сваім жыццём і жыў са мною, які доўгімі гадзінамі трымаў на сабе ўсю маю ўвагу. Мы так зжыліся адзін з другім, што я амаль чуў ягоную просьбу не выносіць яго напаверх, каб не было сведкаў нашага дзівоснага пабрацімства, каб толькі для нас засталася гэта тайна. З-за гэтай унутранай з

ім размовы, паглыбленасці ў свой свет, я, здаралася тое ўсё часцей, мог прайсці на вуліцы каля знаёмага, не прывітаўшыся. Мог зайсці ў магазін, забыўшыся па дарозе, чаго прыйшоў...

Так марудзячы сам з сабою, калі выйшаў з магазіна, раптам на тратуары за нейкіх дваццаць метраў, не болей, я ўбачыў Паўла, чарнява-кучаравага Паўліка – як і раней у адгладжаным цёмна-сінім касцюмчыку, па-кавалерску з перакінутым на левай руцэ крымпленавым плашчом, а ў правай – з партфелем. Ён паветранаю хадою спяшаўся да мяне. Я аслупянеў і бязмерна жахнуўся ў адну часіну. Ці не пару тыдняў таму назад, а можа і болей, вялікімі чорнымі літарамі сям'я інфармавала на дошцы аб'яў непадалёку ад уваходу ў царкву аб нечаканай смерці іхняга сына і мужа. Хоць калі мелася быць пахаванне і на якіх могілках, у некралогу, праўда, не гаварылася.

І вось ён, той самы, набліжаўся да мяне. Не асэнсоўваючы сваіх рухаў, я тут жа выняў з кішэні партманэт і, адвярнуўшыся, каб не бачыць ягоных вачэй, а, мабыць, каб і ён не прыкмеціў мяне, высыпаў у жменю добрую горку манет і стаў іх ліхаманкава пералічваць. Што й гаварыць, нябожчыкаў я баяўся. Калі мне было пяць ці чатыры гады, памерла татава далёкая цётка. Я зайшоў за татам у хату, дзе ляжала ў труне мёртвая. Стаўшы побач з труною, я раптам пачуў нечый жаночы, настойлівы голас: "Пацалуй бабу!". Я здранцвеў. "Пацалуй у губы!" Праз вогненнае імгненне я быў кінуты ў роспачную роспач. "Я не ведаю, як цалаваць мёртвую..." – праскочыла праз горла балючая іголка. І тут жа, ледзь стрымліваючы свае першыя хлап-

чукоўскія слёзы на людзях, я кінуўся ў расчыненыя дзверы. Добра, што ніхто мяне не спыніў. І цяпер я таксама забаяўся прывіда, цалкам прапала маё памкненне разгледзець яго зблізку, прывітацца. О, каб лёгка можна было з гэтага месца выпарыцца!

Я не чуў, калі ён прайшоў. І ці ўвогуле прайшоў побач са мною – я не быў упэўнены. Можа, павярнуў направа, а, можа, пайшоў назад...

З Паўлікам мы пасябравалі ў чацвёртым класе пачатковай школы. Са сваіх родных Арэхавічаў ён заўсёды прыязджаў на заняткі на ровары – ці была зіма з завеямі, ці была слотная восень, ці вясна з калюжынамі. Дабіраўся заўсёды ў час, як зрэшты большасць хлопцаў нашага класа, якія або ішлі пехатою з навакольных вёсак, або прыязджалі на цягніку. Яны з’яўляліся ў школе звычайна на дваццаць-пятнаццаць хвілін раней, і мяне, гарадскога, які прыходзіў перад самым званком, не прымалі спачатку ў сваю дружную кампанію, калі выходзілі на перапынак паганяць мяч ці пакрыёма пагуляць “у дурня” або “ачко”. Між іх Паўлік быў як бы з іншага цеста. Спакойная лепка падбародка, станоўчы рот з выразна зарысаванымі губамі, на якіх блукала, як мне здавалася, добрая, зычлівая і часам як бы разумная ўсмешка. У выглядзе ягонага юначага твару была ўжо прыкметна меланхолія і нешта тужліва-мройнае, можа, прыкмета няўпэненасці, якою хварэлі многія з нас, народжаныя падчас вайны, калі нашы мацеры паўтаралі адзінаццатую запаведзь: “Не памірай!”.

Паўлік быў кемлівы, даваў спісваць хатнія задачы, у пару ўмеў трапна падказаць, калі на ўроках нечакана ставіліся настаўнікамі па-за падручнікавыя

пытанні. Але і ён, па-хатняму памяркоўны ў сваіх школьных паводзінах, бывала, зрываўся эмацыянальна, быў як усе іншыя, калі ўвесь саракаасабовы абстрыжаны пад рэкрута наш мужчынскі клас на перапынку ставаў на вушах – аж хадуном хадзілі кафляныя печы і лаўкі, зрывалася са сцяны дошка, а ў прасторы лёталі падручнікі, сшыткі, скрынкі, боты, пінжакі, аж хісталіся сцены нашай драўлянай "мінеты". Так называўся пажыдоўскі барак, у якім мы вучыліся, і на якім ад вуліцы на сцяне нейкі час пасля вайны віднеўся вырысаваны белаю фарбай салдацкі напіс: “Мин нет!”. У такім чарговым буянстве, помніцца, Паўлік шпурнуў з усяе маладой сілы свой ці суседа заладаваны пад завязку партфель – ці то проста так, каб ён пазнаў радасць палёту, ці каб у каго патрапіць. Але з вакна пасыпалася з сыкам і хрумстам шкло, а клас на доўгую хвіліну анямеў, прыціх. Пакуль на ўрок празвінеў званок і ў клас увайшла настаўніца, усё шкліва з падлогі было чысценька падмецена і прыхавана. Матэматычка аднак адразу па нечуванай цішыні сцяміла, чаму сядзім з павешанымі насамі, быццам зубрым нешта на памяць.  Загадала  дзяжурным тут жа сабраць з усіх складчыну, мігам зняць аконныя рамы і ўміг бегчы з імі да шкляра. “Вось ён там, – сказала па-мацярынскі, спакойна і патрабавальна, – насупраць, па другі бок вуліцы, вы добра ведаеце, дзікуны”.

Грошай пры сабе я не насіў. Мае бацькі не мелі звычкі даваць дзіцяці-падлетку, а я не меў яшчэ патрэбы прасіць. Бачачы мае схаваныя ў кішэні рукі і зацятае маўчанне, Паўлік, калі падышла чарга кінуць у шапку ад нашай лаўкі, заклаў і за мяне. “Заўтра звярні,” – сказаў па-прыяцельску на вуха.

Але наступны дзень быў святочны, нядзельны, а ў панядзелак зусім выляцела з галавы. Прыйшоў у школу, убачыў Паўліка, стала няёмка. Ён, відаць, па -свойму зразумеў і, не моцна стукнуўшы кулаком у мае грудзі, спакойна сказаў: “Значыць, пазней... калі будуць!”

Забі мяне цяпер, я не ведаю, чаму гэты даўжок я не вярнуў яму ні тады, ні крыху пазней, калі былі яшчэ ж і ў пятым, затым у шостым і сёмым класах, пакуль вучыліся разам. Магчыма, што і Паўлік цалкам забыўся пра тыя грашакі і таму не прыпамінаў мне. У ліцэйскіх класах яго ўжо не было. Ці прадоўжыў вучобу ў іншай школе, ці з нейкіх сямейных прычын, можа, мусіў схапіцца за працу, я не ведаў і не шукаў яго.

Значна пазней, праз шмат гадоў, калі ўсе з нашага класа пераступілі жыццёвы парог саракоўкі, даўнія знаёмыя гаварылі, што Паўлік стаў караблебудаўніком, іншыя – што на шклозаводзе выдувае каляровыя вазоны, падкветнікі ды розныя ўпрыгожанні для інтэр’еру, а яшчэ нехта казаў, што той абзавёўся вельмі рана вялікай сям’ёю і ходзіць з доўгай барадаю за плугам па полі. І ўсё сее жыта. А яшчэ пазней я сам прачытаў тую абвестку аб ягонай заўчаснай смерці. З глыбокай шуфляды памяці там жа, пры дошцы, раптоўна выліўся на мяне кіпень – я ж не аддаў яму грошы! Ах, як рэзанула па сэрцы. “Жаль, жаль Паўліка, – казаў я сабе, моўчкі шавелячы губамі, бы маліўся. – Чаму не аддаў?! Можа, жыў бы...”

Аказалася, што Паўлік не прачнуўся з ночы і яго забрала хуткая дапамога. Няўжо адвярнуўся ад яго на нейкую долю секунды ягоны анёл-ахоўнік? Ці то

само жыццё ягонае, яго ж не пытаючыся, пакі-нула беднага на паўдарозе? Яго перадалі ў празек-торыю, каб высветліць прычыну смерці. Аднак анатам, даткнуўшыся няўзброенай рукой да яшчэ нестарога цела, адчуў кволае ў ім цяпло і, відаць, пашкадаваў адпускаць чалавека на той свет.

Што было з ім тады – ніхто ні з лекараў, ні з радні толкам нічога ўцямна не мог сказаць. Казалі толькі, што Паўлік пражыў яшчэ, здаецца, паўгода. На гэты раз некралогу аб ягонай смерці ні ў газеце, ні на прыцаркоўнай дошцы не было.

І ў той самы час, даведаўшыся пра канчатковы зыход Паўліка, я зноў адчуў, як у маю душу падае гарачы вугалёк, балесная думка, што ніколі не змагу вярнуць яму доўг, і што мой розум не патрапіць адказаць сабе на сваё ж неразумнае пытанне – ці ўбачыў яго тады я на вуліцы пасля ягонай першай смерці ці ўжо пасля другой – і дзеля чаго ён з'явіўся, што ён хацеў мне сказаць?

А тую кніжачку, якую ўсё збіраўся напісаць пра маіх школьных сяброў, я і да гэтага часу так і не напісаў. Хоць яна ўсё калышацца ўва мне нібыта светлы, лёгкі, летні сон, які не хоча сам сабою рас-казацца, або нібы мігатлівыя арабескі на рачной вадзе, якія бачыш, але не можаш выняць іх адтуль, з іхняй утопленай глыбіні – каб іх убачылі мае адна-класнікі.

13–15. 01. 2015



***

Хто ён, той чалавек
Жаночага роду,
Які нясе сваё цела,
Як галаву Іаана?

Душа глядзіць з іконы
На свет той бездапаможны,
Ў якім міраносіцам-жонам
Галаву насіць гэтак можна.

5. 11. 2014

***

Мора падыдзе пад хату
і скажа: “Сухія Рэчы,
ва ўсім вы ўсе вінаваты,
бо ў вас жыве агнеча.

Жыць да скону сконаў
На свеце гэтым будуць Вадніцы.
Гасіце ў сабе полымя мовы,
Святое ў сабе гасіце!”

Мора прыйшло ўпотай
І кажа: “Душы і сэрца
Перад навалам-патопам
Таксама пазбыцца трэба!
І трэба змірыцца
Не бачыць высокага неба!”

25. XI. 2014

## МАРНАЯ ПРОЗА

Па вуліцы Мальмэда ў Беластоку
Ходзіць мужчына ў вопратцы
Старога чалавека-юнака.

Даўно ён тутака ўсім знаёмы.
І здзіўляецца, што ў жывых яго няма,
І новы свет наскрозь не той –
Дамы не тыя, рэчы, твары, словы.

Ды ходзіць ён па вуліцы сваёй, Купецкай:
То ўніз спускаецца, як бы
шукаючы жывой вады,
то падымаецца ізноў уверх
да брамы юдэнрату,
дзе дасюль вісіць ягонае
на лютаўскім марозе цела...

Яму пад сорак і яго шукае
Безупынна Ефраім Бараш.

Юнак жывы, калі ніхто яго не бачыць...
Ён выжыў! Ды цяпер не ведае,
Як яму ізноў памерці.

26. XI. 2014

***

Ластаўкі з грудак балота
Лепяць гняздзечка між бэлькай
І стромкай сцяною, дзе суха, бяспечна
І цень не пускае гарачага лета.

Майстэрска зроблена работа –
Ў палёце, віртуозна, мелькам!
І крылатых некалькі істотак
Хутка выляціць лавіць бясконцасць.

Вось такая радасць ажывае
Кожнай цёплаю вясною.
Быццам нехта ўсцяж перада мною
Нешта дарагое то рассцеле,
То ізноў схавае.

27.XI. 2014

***

Здарыцца нешта. Тут або ў вечным.
У вочы глядзі знаёмым рэчам.
І калі ты шчыра глядзіш –
Убачыш шлях свой млечны,
Як сцелецца ён па зямлі.

Здарыцца ж нешта. І станецца цудам.
У вочы глядзі знаёмым людзям.
І калі ты шчыра глядзіш –
Такім патрэбным, адзіным будзеш
Ім у жыцці, і тым, што ўзвыш.

4.12.2014

***

Штовечара сузор’е Арыёна
Глядзіць ў маё асенняе вакно
І, відаць, усё гартае даты і пісьмёны
З тысячаў мінулых год,
Бы шукаючы ў цячэнні часу дно.

Жухла на двары і ў хаце.
Ноч не спіць і ты не спіш –
Чыстае душы распяцце!
Засталося завяшчанне напісаць,
Пакуль нясеш свой крыж.

4.12. 2014

## МАЎКЛІВАЯ РАДАСЦЬ

Тата хадзіў на рынак
Глядзець на адкрытыя твары.
Любіў ён жывыя партрэты –
Насычаны поўняй іскрынак,
У сонечных бліках і хмарных,
Праўдай жыццёвай сагрэтых.

І як мастак жывапісу,
Чысціў словы ад бруду,
Каб перадаць трапятанне
Ад знойдзенага цуду.
Або, пахілены нізу,
З намі дзяліўся маўчаннем.

20.12.2014

***

Іду на чыстую рэчку,
Дзе мы былі калісь шчаслівы,
Дзе ўсе былі роўна сваімі
Ўсцяж звілістай рэчкі.

Зайду ў ліловае мора,
Па грудзі, па шыю, па вочы,
Каб стацца відушчым, прарочым
На ўсё жыццёвае мора.

Падышоў да зялёнага дрэва,
Дзе хвост сарокі трасецца,
Як сонца ўзышло, то месца
Яму не было пад дрэвам.

Пайду туды, дзе ў камень
Схваны час чакае часу,
Каб выйсці дарослым адразу
І свет схаваць у камень.

Ішоў у той час вялікі,
Які называецца лёсам,
Які зямлі і нябёсам
Чужы на сцежцы бязлікай.

Іду нярухам па свеце,
Як камень бяжыць да крыніцы,
Жывой каб вадой асвяжыцца,
Жывым каб быць на свеце.

7.01.2015

## ЗАБЫТАЕ

У бібліятэцы –
З творамі паэтаў-віртуозаў
І вясковых лірнікаў,
З тамамі выдатных майстроў прозы
І звычайных парабкаў літаратуры,
З кнігамі скораспелых даследаванняў
І фаліянтамі Платона і Стагірыты –

Адна кніжыца лірычных хваляванняў,
Даўно забытых светам,
Так блізкіх мне,
Быццам яны, усё жывыя,
Толькі ўчора напісаныя мною.

21.01. 2015

***

У гэтай змарнелай хаціне,
Дзе ў вокнах цвілі алоэсы,
А мак на стале з карзіны
Ад сталых рухаў бярвення
Сыпаўся нехаця ў шчыліны крэсел,
Бы там сабе знайшоўшы збавенне,
Стаяла руская печ, а на печы,
Ад якой ішла цеплыня па хаце,
Пад дзяружкаю сохла жыта.
І на ім здаровае хлапеча
Парыў косці ды спяваў аб нечым,
Ці спаў і праз сон пяяў дасыта.

І раптам увайшла з двара дзяўчына,
Можа, жонка, а можа, сяброўка
І, згледзеўшы на печы мужчыну,
Ціха завесіла фіраначкі на вокнах,
Каб чужыя вочы не глядзелі
На далейшыя ў хаце той падзеі.

А нехта хадзіў па пакоях,
Сам нябачны для вока,
Нібыта ішоў па свеце сваім адзіным,
Дзе зноў, бы ў каўчэгу Ноя,
Жывыя істоты зышліся па двое,
Каб ім са свету не згінуць.

3.02.2015

# ЗМЕСТ

